# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 342
Год выд. XXXVI

Сьнежань
1987


## ВЯХА ДЗЯРЖАЎНАГА БУДАЎНІЦТВА

### Першы Ўсебеларускі Зьезд, 18-31.XII.1917 г.

Семдзесят гадоў таму, у сьнежні 1917 году, 1915 дэлегатаў (паводля іншых крыніцаў, 1872 дэлегаты), прадстаўнікоў самых розных беларускіх партыяў і арганізацыяў, зьехаўшыся ў Менск на Ўсебеларускі Кангрэс, абвесьцілі рэспубліканскі лад у Беларусі. Кангрэс паклаў таксама юрыдычную аснову для дзяржаўнатворчай дзейнасьці вылучанае ім Рады ды ейнага Выканальнага Камітэту.

Савецкія гісторыкі Вадзім Круталевіч і Мікалай Сташкевіч у сваіх манаграфіях 1975 і 1985 гадоў («Рождение Белорусской Советской Республики» і «Приговор революции») пішуць, што Кангрэс быў распушчаны за «няпрызнаньне савецкай улады» на Беларусі. Абодвы аўтары спасылаюцца пры гэтым на першы пункт пастановы Кангрэсу, але ніводзін зь іх ня цытуе ўсяго тэксту І-га пункту пастановы. Дарэчы, з усіх 15-х пунктаў выпрацаванае Кангрэсам рэзалюцыі толькі першы быў прыняты (аднагалосна) перад тым як бальшавікі сілай зброі разагналі Зьезд. Вось поўны тэкст першага пункту:

«Замацоўваючы сваё права на самавызначэньне, абвешчанае расійскай рэвалюцыяй і ўстанаўляючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускае зямлі, для ўратаваньня роднага краю ды аховы яго ад падзелу й адарваньня ад Расійскае Дэмакратычнае Фэдэратыўнае Рэспублікі, І-шы Ўсебеларускі Зьезд пастанаўляе: безадкладна ўтварыць із свайго складу орган краёвае ўлады ў асобе Ўсебеларускае Рады сялянскіх, салдацкіх і работніцкіх дэпутатаў, якая часова становіцца на чале кіраваньня краем, уваходзячы ў дзелавыя сувязі з цэнтральнай уладай, адказнай перад Радай работніцкіх, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў».

Як бачым, у першым пункце пастановы Кангрэсу ня было ані сэпаратызму ані буржуазнага памешчыцтва, як ня было гэтага і ў далейшых 14-х пунктах. Дый не магло быць з глядзішча на сацыяльна-палітычны склад Кангрэсу. Круталевіч у сваёй манаграфіі цытуе словы бальшавіцкага дзеяча на Беларусі Вільгельма Кнорына: «Не зважаючы на тое, што Зьезд быў створаны рукамі правасацыялістычных беларускіх элемэнтаў, — пісаў Кнорын у 1924 годзе, — на ім была даволі моцнай левая фракцыя, і пры ўмелым партыйным кіраўніцтве, магчыма, удалося-б Зьезд расшчапіць і ягоную рэвалюцыйную частку аб'яднаць пад савецкім сьцягам. Але гэта ня было зроблена дзеля шэрагу памылак». (б. 130).

Вось-жа ня ідэйна-клясавыя канфлікты былі прычынаю разгону Ўсебеларускага Зьезду, а палітычна-нацыянальныя. На Кангрэсе была прадстаўленая ўся працоўная, дэмакратычная Беларусь. А разганяў яго расейскавялікадзяржаўны франтавы бальшавізм, бо ані Кнорын, ані Ландэр, ані Мясьнікоў — галоўныя заправілы бальшавізму ў «Паўночна-Заходнім краі», Беларусамі ня былі й Беларусі не прызнавалі. Характар ваеннае сілы, якая разагнала Ўсебеларускі Зьезд, выяўляўся ўжо ў самым ейным афіцыйным назове — «Абласны Выканальны Камітэт Заходняй вобласьці і фронту».

У Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, у артыкуле «Усебеларускі Зьезд», гэтак і сказана: «Усебеларускі Зьезд распушчаны паводля пастановы Савету Народных Камісараў Заходняй вобласьці і фронту» (т. 10, б. 495). Старшынём СНК Заходняй вобласьці і фронту быў ураджэнец Курляндзкае губэрні, латышскі сацыял-дэмакрат Карл Ландар, а сакратаром другі Латыш — Вільгельм Кнорын. Сваё стаўленьне да Беларусаў Кнорын красамоўна прадэманстраваў у газэце «Звезда», органе Паўночна-Заходняга абласнога бюро РСДРП (б), за 6 кастрычніка 1918 г.:

«Мы считаем, что белорусы не являются нацией, и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не создание новых наций, а уничтожение старых национальных рогаток. Белорусское же движение является таким воздвижением новых национальных рогаток…».

Бальшавіцкія арганізацыі ў Паўночна-Заходнім краі (слова «Беларусь» бальшавікі не прызнавалі ў сваіх афіцыйных назовах аж да самага канца 1918 году), кіраваныя ідэйна чужым, расейскім або зрусыфікаваным элемэнтам, змушаныя былі аднак пайсьці на саступкі беларускаму руху зь ягонай ідэяй нацыянальнае дзяржаўнасьці. БССР была абвешчаная толькі таму, што вялося змаганьне за БНР. БССР сталася свайго роду кампрамісам паміж нацыянальнай сувэрэннасьцяй і статусам вобласьці (Паўночна-Заходняй) РСФСР.

Гістарычнае значаньне Ўсебеларускага Кангрэсу ў тым, што ён паставіў вяху ў беларускай палітычнай гісторыі, заявіўшы на ўвесь голас і на ўвесь сьвет, што Беларускі Народ хоча мець сваю рэспубліку і хоча сам устанаўляць «рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускае зямлі».

**Янка Запруднік**

> ***«У зямельным пытаньні Ўсебеларуская Рада сялянскіх, салдацкіх і работніцкіх дэпутатаў забабязаная безадкладна фактычна перадаць усю зямлю з жывым і мёртвым інвэнтаром бяз выкупу ў рукі працоўнага сялянства празь зямельныя сялянскія камітэты».*** (Пункт 9-ты рэзалюцыі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу)




### НА ПЕРШЫ ДЗЕНЬ, ДА НА РАСТВО

*Калядка зь Пінскага павету*

*На першы дзень, да на Раства,*
*Сьвяты вечар, да на Раства.*
*Ішоў гаспадар да цэркві,*
*Стрэў-жа вун да тры ангелы:*
*Адзін ангел — ясна сонелка,*
*Другі ангел — ясны месячык,*
*Трэці ангел — дробны дожджык.*
*– А што-ж ты рэчэш, ясна сонелка?*
*— Ой, як я ўзыйду ў нядзелю раненька,*
*Зрадуецца стары і малы,*
*Да цэркві ідучы, сьвечай Бога хвалючы.*
*— Ой, што-ж ты рэчэш, ясны месячык?*
*— Ой, як я ўзыйду ў цёмнай ночы,*
*Зрадуецца купец у дарозе,*
*Валы ў абозе.*
*— Ой, што-ж ты рэчэш, дробны дождджык?*
*— Ой, як я ўзыйду тры разы ў маі,*
*Зародзіць Бог жыта, пшаніцу,*
*Жыта, пшаніцу і ўсякую пашніцу.*
*Накладзем стожкі*
*На штыры рожкі,*
*Накладзем пшаніцы*
*На паланіцы,*
*Накладзем аўса,*
*Да каляда ўся.*
*Бывай здароў,*
*І зь дзетачкамі*
*Да й з маленькімі.*
*І з суседамі*
*Да й з блізенькімі.*
*Табе, дзядзьку, каляда,*
*А нам падай пірага.*

(Зімовыя песьні. Калядкі і шчадроўкі. Менск, 1975, б. 199)

### *ІТАЛЬЯНСКІЯ ГАЗЭТЫ ПРА МЕНСКУЮ ПАДЗЕЮ*

Італьянскія газэты Avanti, Il Giornale, La Republica і камуністычная L'Unita, усе за 21 лістапада, падалі з Масквы (базуючыся на паведамленьні газэты «Советская Белоруссия») аб праведзеным у Менску мітынгу, на якім была асуджаная сталінская генацыдная палітыка на Беларусі ў 1930-х гадох. Італьянскія карэспандэнты пішуць, што на Беларусі адбываецца цяпер адраджэньне нацыянальнае самасьвядамасьці, ідзе абарона беларускае культуры, гаворыцца пра патрэбу запоўніць «белыя плямы» беларускае нацыянальнае гісторыі.

## ПАЛІТЫЧНЫ МІТЫНГ У МЕНСКУ

### (Абвінавачаньне ў генацыдзе)

Адраджаючы сьвята «Дзядоў», дзень памяці прашчураў, аб'яднаньне маладых літаратараў «Тутэйшыя» і маладзежны клюб «Талака» зарганізавалі 1-га лістапада сёлета ў Менску ля помніка Янку Купалу сустрэчу, на якую, паводля газэты «Советская Белоруссия» (17 і 18.XI.87), прыбыло каля двухсот асобаў (сярод якіх былі «ведамыя паэты й пісьменьнікі, вучоныя, мастакі, партыйныя й камсамольскія працаўнікі»). Удзельнікі сустрэчы прынялі ліст-зварот з дамаганьнем, каб былі названыя ня толькі ўсе ахвяры сталінскіх рэпрэсіяў, але й спраўцы злачынстваў ды каб злачынцы былі пакараныя. У звароце ёсьць і гэткае дамаганьне: «Забясьпечыць поўнае веданьне таго падспуднага мэханізму, які дазволіў на вачох цэлага народу найлепшых сыноў абярнуць 'у ворагаў', а рэшту — у 'запалоханы натоўп'».

У спантанічных, гарачых прамовах на мітынгу гаварылася, што рэпрэсіі 30-х гадоў былі фактычна генацыдам у дачыненьні да беларускага народу.

Як піша «Советская Белоруссия», «у маладзежным асяродзьдзі наяўнае рэзкае павышэньне зацікаўленьня да культурнае й гістарычнае спадчыны беларускага народу, да краяведы».

На мітынгу ля помніка Янку Купалу, піша газэта, дзеілі таксама «інтрыганы», якія «змагаюцца цішком за 'вызваленьне беларускага народу'», «абралі месцам свайго промыслу дзялянку нацыянальных дачыненьняў».

Дакладнейшая інфармацыя пра сьвята «Дзядоў» ля помніка Купалу будзе пададзеная ў наступным нумары «Беларуса».

### *«НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ — НАЙБОЛЬШЫ ВЫКЛІК МАСКВЕ»*

Гэткі загаловак артыкулу, прысьвечанага 70-годзьдзю Кастрычніцкае рэвалюцыі, у аўтарытэтнай бэльгійскай газэце Le Soir за 6-га лістапада сёлета. У артыкуле сказана, што, незважаючы на савецкія афіцыйныя цьвярджаньні аб развязваньні нацыянальнага пытаньня ў СССР, пытаньне гэтае стаіць войстра на парадку дня. Газэта

*(Заканчэньне на 2-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЗАХАД БАЧЫЦЬ АБЛЫЖНАСЬЦЬ

Камітэт Генэральнай Асамблеі ААН да сацыяльных, гуманітарных і культурных справаў бальшынёй 103 галасоў супраць 10 (пры 15 галасох устрыманых) парэкамэндаваў 20 лістапада сёлета Генэральнай Асамблеі ААН прыняць рэзалюцыю аб «праве на жыцьцё» для «ўсіх народаў і паасобных людзей».

Уліку 21 дзяржавы савецкага блёку, што выставілі рэкамэндацыю й выпрацоўвалі праект рэзалюцыі, была й Беларуская ССР.

Калі-б рэзалюцыя гэткая была прынятая, урад савецкае Беларусі мусіўбы паруліцца перш-наперш, каб яна была ўжыцьцёўленая ў рэспублікі ў дачыненьні да беларускага народу, якому таксама належыцца «права на жыцьцё», але які, кажучы словамі ліста 134-х да Гарбачова, «цяпер стаіць на мяжы зьнікненьня як нацыянальна-гістарычны арганізм» у выніку савецкае этнацыднае палітыкі. Дасюль аднак савецкая ўлада на Беларусі ў асобе ейнага найвышэйшага прадстаўніка, першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова, цьвердзіць, што беларускі народ цешыцца неабмежанымі магчымасьцямі культурнага росквіту.

Цынічную аблыжнасьць гэткіх цьверджаньняў заходнія дзяржавы бачаць, і гэта адна з прычынаў, чаму 10 дзяржаваў Захаду, а ў тым ліку й ЗША, галасавалі супраць рэкамэндацыі сацыяльнага камітэту Генэральнае Асамблеі ААН.

## *ЯК САВЕЦКІЯ ГІСТОРЫКІ «ЦЫТУЮЦЬ»*

**(М. Сташкевіч і В. Круталевіч пра І-шы Ўсебеларускі Кангрэс**

Мікалай Сташкевіч, які спэцыялізуецца на тэме бальшавіцкага Кастрычніцкага перавароту («пераваротам», а не рэвалюцыяй называўся захоп улады бальшавікамі нават у савецкіх партыйных публікацыях у 1920-х гадох) у кнізе «Приговор революции. Крушение антисоветского движения в Белоруссии. 1917-1925» (Менск, 1985, б.145) цытуе з часапісу «Варта», выдадзенага у Менску ў кастрычніку 1918 году. У часапісе была зьмешчаная даведка Пётры Крэчэўскага пад заг. «Кто был на 1-ом Всебелорусском Съезде». Сташкевіч піша:

»Ён (г. зн. Крэчэўскі ў сваёй даведцы — Я.З.) заявіў, што 'здесь не было ни евреев, ни поляков, ни латышей, и только контрабандным способом попало несколько русских, приехавших с определенной целью спровоцировать съезд во что бы то ни стало'». І тут Сташкевіч робіць спасылку: «Варта», 1918, № 1, с. 34-35».

Адчыняем на паданых старонках часапіс «Варта», там стаіць:

«Здесь не было ни евреев, ни поляков, ни латышей, и только контрабандным способом попало несколько 'товарищей' из великороссов, приехавших с определенной целью спровоцировать Съезд во что бы то ни стало».

Сташкевіч вельмі добра разумее, якая розьніца паміж ягонымі словамі «несколько русских» і словамі Крэчэўскага «несколько 'товарищей' из великороссов». Крэчэўскі пісаў пра **бальшавікоў** («товарищей»), а Сташкевіч зрабіў з бальшавікоў (прадстаўнікоў палітычнае партыі) **Расейцаў** (прадстаўнікоў нацыянальнасьці), каб «падмацаваць» гэтым абвінавачваньне беларускіх адраджэнцаў у антырасейскім шавінізьме — улюбёная прыхватка савецкай прапаганды.

У манаграфіі В. Круталевіча «Рождение Белорусской Советской Республики (Менск, 1975, б. 139) іншы варыянт «цытаваньня», але ў тым-жа духу што і ў Сташкевіча: слова «товарищи» Круталевіч выпусьціў, замяніўшы яго трыма кропачкамі: «и только контрабандным способом попало несколько... великорусов».

Гэтак вось выглядае контрабанда ў савецкай гістарычнай навуцы...

**Я. З.**

## *«НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ»*

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

піша: «Хоць сярод 282 міліёнаў жыхароў у Савецкім Саюзе Расейцаў менш як 50 працэнтаў, у Палітбюро ЦК КПСС з 13-х членаў усяго трох не-Расейцаў і толькі адзін 'ня-белы' (Эдуард Шэварднадзэ) і ніводнага прадстаўніка ад пяцёх азіяцкіх 'мусульманскіх' рэспублік зь іхнімі 50 міліёнамі жыхароў». Далей у газэце Le Soir пішацца: «З другога боку, назіраецца фэнамэн: ідучы за сваім сумленьнем, інтэлектуальная праслойка Украінцаў і Беларусаў выступіла ў абарону свае мовы й культуры. Гэты рух важны тым, што ён праводзіцца элітай, якая мае партыйнае заплечча, ды што рух гэты скіраваны супраць русыфікацыі і праз гэта набывае антысавецкую ахварбоўку».

# КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ І ЎСІМ БАГАЛЮБНЫМ ПРАВАСЛАЎНЫМ ВЕРНІКАМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

***«Ня бойцеся, бо вось я прыношу вам дабравесьць вялікай радасьці, што будзе ўсім людзям» (Лк. 2:1).***

Дарагія Браты й Сёстры!

У Сьвятым Евангельлі сказана: «Усё гэта сталася, каб споўнілася сказанае прарокам: 'Вось Дзева зацяжарыць і народзіць Сына, і дадуць Яму імя Эмануіл', што значыць: з намі Бог» (Мц. 1:22-23).

Вось, як бачым, Сьвятое Евангельле пачынаецца словамі аб прысутнасьці Бога між людзьмі — «з намі Бог» — і канчаецца прырачэньнем Госпада быць заўсёды сярод нас: «І вось, Я з вамі ўсе дні аж да сканчэньня веку» (Мц. 28:20).

У ціхую калядную ноч ангел абвяшчае людзям дабравесьць, прыносіць радасную вестку: «з намі Бог». І няма дзіва, што зьяўленьне ангела спалохала пастухоў. Кожны з нас быў-бы ўстрывожаны падобным зьяўленьнем. Але ангел спакойна кажа «Ня бойцеся», каб супакоіць спалоханых пастухоў, ды прыгатовіць іх выслухаць далейшыя ягоныя словы: «Нарадзіўся вам сёньня ў месьце Давідавым Збаўца, Каторы ёсьць Хрыстос Госпад» (Лк. 2:11). І тут-жа яны пачулі хор ангелаў: «Слава Богу на ўзвышшах а на зямлі супакой у людзей добрае волі» (Лк. 2:14).

Дарагія веруючыя ў Хрыста, калі нябесная радасьць зыйшла на зямлю, ці-ж не належыцца, каб і нашая песьня хвалы ўзносілася да неба? Калі брамы нябёсныя адчыніліся й зьзяючыя праменьні Божай славы спускаюцца ўніз, ці-ж не належыцца, каб і нашыя думкі ды нашая пахвала з усёй любоўю ўздымаліся да вечных варот?

Нажаль, не аднаму з нас здаецца, што немагчыма знайсьці лучнасьць з Богам, і знайсьці Яго, і дасягнуць да Яго. Вельмі часта здаецца нам, што Ён так далёка ад нас, што Яго няма. Але ўсё гэта зьмяняецца ў дзень Раства Хрыстовага, у дзень нараджэньня Збаўцы нашага, бо Бог зыйшоў на зямлю. Ісус Хрыстос устанавіў абапальную лучнасьць чалавека з Богам, праз Ісуса мы можам знайсьці Бога ды быць у супольнасьці зь Ім малітваю, Сьв. Прычасьцем і праз Царкву.

Нараджэньне Хрыстовае мае вялікае значаньне яшчэ й тым, што прыносіць весьць пацехі для адасобненых. І так як гэтаю сьвяточнаю парою мы дзелімся міжсобку Божай радасьцяй, гэтак не забываймася і пра адзінотных, прамаўляйма й да іх: «Хрыстос нарадзіўся — Яго слаўце». І гэтым мы напоўнім Божай радасьцяй свае сэрцы — атрымаем узнагароду за тое, што мы прынесьлі Эмануэля-Бога й напоўнілі іхныя сэрцы радасьцяй і надзеяй.

Сьвяты Павал кажа: «Да ўсяго я дуж у Хрысьце, Які дае мне сілу» (Піл. 4:13). У нашыя часы бязбожжа, пашырыўшыся і ўмацаваўшыся, корміць сваіх пасьлядоўнікаў надзеяй на ўтопію. Бязбожжа абяцала людзям задавальненьне, шчасьце й радаснае жыцьцё — рай на зямлі. Але па гэткім доўгім часе, чуць не па сталецьці, ня прынесла людзям абяцанай утопіі. Яно не задаволніла нават сваіх пасьлядоўнікаў матар'яльна, а наадварот — адабрала ў іх свабоду сумленьня й чалавечую годнасьць.

Не аднаму здавалася, што бязбожжа суцэльнае й моцнае, як скала. І вось на нашых вачох яно расшчапляецца і трэшчыны ўсьцяж разыходзяцца.

Будзем-жа з глыбіні сэрца маліцца, каб гэтая праўда перамагла, будзем прасіць Нараджанага Збаўцу, што прынёс супакой на зямлю, каб Ён замацаваў любоў між людзьмі і каб крык бязбожжа не заглушаў ангельскую дабравесьць: з намі Бог. Каб Ён у часе турботаў апякаваўся намі. Ён з намі, каб у смутку выцерці нам сьлёзы; Ён з намі, каб, як павалімся, падняць нас; Ён з намі, каб у часе слабасьці ўзмоцніць нас. Так, дарагія мае, Ён з намі праз увесь час, і тут і ў будучым жыцьці — у месцы, якое Бог прыгатовіў тым, хто любіць Яго. З намі Бог — Яго слаўце!

Дарагія Браты й Сёстры, усклікнем разам з псальмасьпеваком: «Уся зямля паклоніцца Табе й будуць сьпяваць імені Твайму» (Пс. 65/66:4).

Трапар: Нараджаньне тваё, Хрысьце Божа наш, зазьзяла людзям сьвятлом розуму, бо праз Яго тыя, што зоркам служылі, Зоркаю былі навучаныя. Табе кланяемся, сонцу праўды, і Цябе пазнём з узвышша Ўсходу. Госпадзе, слава Табе!

Любыя й дарагія мае, з нагоды вялікага й раднаснага сьвята нараджаньня Госпада й Збаўцы нашага Ісуса Хрыста, сардэчна вітаю ўсіх Вас: Хрыстос нарадзіўся — Яго слаўце. Амін.

**Архіепіскап Мікалай**
**Першагіерарх БАПЦ**

*(Для перадачы на Бацькаўшчыну праз радыё «Свабода»).*

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ ГІЕРАРХІ БАЙКАТУЮЦЬ ЕВАНГЕЛЬЛЕ

Незважаючы на тое, што вялікая бальшыня вернікаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы — Беларусы, епіскапат ПАПЦ байкатуе Евангельле ў беларускай мове, адмаўляецца пашыраць яго. На фармальныя звароты-прапановы да галавы ПАПЦ Мітрапаліта Васіля (Дарашкевіча) замовіць пэўную колькасьць Евангельляў з Канады (дзе беларускі пераклад Евангельля, зроблены Антонам Луцкевічам, выдадзены новым тыражом) быў дадзены адмоўны адказ. Іншыя звароты ды кансысторыі ПАПЦ таксама дадатных вынікаў не далі. Чым гэты байкот тлумачыцца, цяжка зразумець, бо ўладыкі з ПАПЦ не гаварлівыя на гэтую тэму. Як-бы там ні было, гэта несамавітая дэманстрацыя пасыўнай варожасьці да беларускае мовы ў рэлігійным жыцьці праваслаўных у Польскай Народнай Рэспубліцы. Як нам ведама, сярод праваслаўных Беларусаў і нават сярод сьвятарства ПАПЦ ёсьць людзі, што прыхільна ставяцца да таго, каб беларуская мова ўжывалася ў царкоўным жыцьці і рэлігійнай практыцы.

Мае рацыю, відаць, «Беластоцкі прыхаджанін», які ў лісьце ў рэдакцыю «Беларуса» (№ 341) піша пра ПАПЦ, як прыладу русыфікацыі ды палянізацыі, а ня служэньня беларускаму народу.

### «ВЯРТАНЬНЕ» СКАРБАЎ

Газэта «Літаратура і Мастацтва» падала 9.X.87 г.:

«У Беларускім фондзе культуры ўтвораная камісія 'Вяртаньне', мэта якой — збор культурных каштоўнасьцяў, што належаць беларускаму народу. Вырашана стварыць картатэку, у якой будзе зарэгістравана ўсё, што было ў нашых музэях, карцінных галерэях, у прыватнікаў і зьнікла ў часе вайнаў ці па іншых прычынах».

За старшыню камісіі абраны пісьменьнік Адам Мальдзіс.

## АБКРАДАНЬНЕ ЦЭРКВАЎ СПЫНЕНАЕ

Радыё-Масква падало 9.X.87 г. пра раскрыцьцё на Беларусі працаўнікам крымінальнага вышуку Мікалаем Красьнеўскім сеткі зладзеяў і перапрадаўцоў царкоўнае й касьцельнае маемасьці. За кароткі час у Гарадзенскай, Менскай і Гомельскай вобласьцях было абкрадзена 17 сьвятыняў. Да шайкі зладзеяў належалі ня толькі працаўнікі могілкаў у Бабруйску, але й выкладчык катэдры рэжысуры Менскага Інстытуту Сьмятко, асыстэнт рэжысэра кінастудыі «Беларусьфільм» Лесанаў, член Саюзу Мастакоў БССР Бачкароў. Накрадзеная маемасьць збывалася паза межамі рэспублікі. Пры вобшуку ў кватэры бабруйскага магільшчыка Пазьнякова знайшлі калекцыю, якой мог-бы пазайздросьціць які хаця музэй: падсьвечнікі эпохі Адраджэньня, 20 іконаў, унікальную калекцыю халоднае зброі, замorскія фатаапараты й біноклі. У загароднай вільлі Пазьнякова кошт награбленай маемасьці перавышаў у дзесяць разоў суму, за якую судзяць з фармулёўкай «раскраданьне ў асабліва буйных памерах».

Суд над зладзеямі адбыўся ў Гарадні. Пазьнякову далі 14 гадоў зьняволеньня, іншым — тэрміны, адпаведныя іхнай віне.

Мітрапаліт Менскі й Беларускі Філарэт паслаў ліст падзякі ў Міністэрства нутраных справаў БССР.

Рэчы гістарычнае й мастацкае вартасьці, якімі карыстаюцца ў цэрквах і касьцёлах (іконы, кнігі, чашы й інш.), паводле савецкага закону, належаць дзяржаве, якая передала іх да карыстаньня веручым. Увесь гэты інвэнтар (32 тыс. адзінак) апісаны ў спэцыяльных каталёгах і манаграфіях. Кантроль і ахова гэтага багацьця, як і іншых помнікаў гісторыі й культуры, ускладзеныя на Саветы народных дэпутатаў.

*Беларуская дэлегацыя на парадзе сьцягоў у Парку Свабоды ў штаце Нью-Джэрзы ў часе адчыненьня міжэтнічнага фэстывалю. Сьцягі нясуць сп. Віталі Цярпіцкі (беларускі) і сп. Лявон Стагановіч (амэрыканскі). Між імі: дзеці сп-тва Біла й Людмілы Грантаў (унукі В. і Г. Русакоў) і дачушка сп-тва Мікалая й Ірэны Дутко (Рагалевіч). Пра фэстываль гл. «Беларус» № 339.*

*Некаторыя з нашых дапішчыкаў карыстаюцца беларускімі маркамі, рэкламуючы гэткім спосабам імя Беларусі.*

## ГАЛАСЫ ПРАТЭСТУ

### Іншадумства ў Прыбалтыцы, на Ўкраіне і ў Беларусі

У Нью-Ёрку зь ініцыятавы ўкраінскіх студэнтаў у супрацоўніцтве з Украінскім Інстытутам Амэрыкі адбылася 14 лістапада канфэрэнцыя, прысьвечаная іншадумству ў Прыбалтыцкіх рэспубліках, у Беларусі да на Ўкраіне.

Украінскія дакладчыкі — а сярод іх быў і шыроказнаны гісторык, даўгагадовы вязень савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягероў Сьвятаслаў Каравански — гаварылі пра палітычныя публікацыі нядаўна памерлага ў савецкім зьняволеньні ўкраінскага дысыдэнта Васіля Стуса ды Зіновія Красіўскага.

Латышскі дакладчык Раланд Сілараўпс, які толькі нядаўна, усяго пару месяцаў таму, апынуўся на Захадзе — савецкія ўлады загадалі Сілараўпсу пакінуць Латвію за ягоную палітычную дзейнасьць і арганізацыю дэманстрацыяў — расказаў, як латышская моладзь ды інтэлігенцыя вядуць змаганьне за свае правы.

Эстонскі даклад быў прысьвечаны дзейнасьці эстонскага іншадумца Марта Ніклуса, а літоўскія прадстаўнікі гаварылі пра дзейнасьць і літаратурныя творы літоўскага дысыдэнта Віктара Петкуса.

Даклад аб беларускіх іншадумцах і дысыдэнцкай літаратуры Беларусаў, пачынаючы ад «Тэстамэнту» Ўладзімера Жылкі — аб творах Анатоля Сербантовіча, Усевалада Краўчанкі, Ларысы Геніюш ды іншых пісьменьнікаў-апазыцыянераў — прачытаў др. Вітаўт Кіпель. В. Кіпель прааналізаваў таксама выдрукаваныя на Захадзе, але не апублікаваныя ў Беларусі, лісты дзеячоў беларускае культуры ды патрыятычнага беларускага грамадзтва да генэральнага сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова. Лісты гэтыя, хоць і не належаць, дакладна кажучы, да іншадумнае літаратуры, але яны навочна паказваюць на нішчэньне нацыянальнае спадчыны, якое савецкая ўлада праводзіць на Беларусі.

У падсумаваньні праведзенае ў Нью-Ёрку канфэрэнцыі было падкрэслена, што ў сфэры нацыянальных дачыненьняў гарбачоўская «перабудова» нічога істотнага не зьмяніла, а толькі дала магчымасьць крыху свабаднейшага выказвацца. Русыфікацыя-ж нацыянальных рэспублікаў праводзіцца далей.

## У АБАРОНУ М. КУКАБАКІ

У пятніцу 30-га кастрычніка 1987 г. у Лёндане адбылася перад савецкім пасольствам вахта салідарнасьці зь беларускім вязьнем сумленьня ў Савецкім Саюзе Міхалам Кукабакам. Вахта была арганізаваная Міжнароднай Амністыяй, арганізацыяй абароны правоў чалавека.

Міхал Кукабака, шматгадовы вязень лягероў прымусовае працы й псыхбольніцаў, штагоду ў Дзень Палітычнага Вязьня, 30-га кастрычніка, абвяшчае галадоўку ў знак пратэсту супраць пагвалтаваньня ў Савецкім Саюзе правоў чалавека.

Пяты год ужо лёнданская група МА далучаецца да галадоўкі Міхала Кукабакі. Гэтым разам было шмат выслана лістоў на рукі міністра юстыцыі СССР Б. В. Краўцова. Аўтары лістоў пісалі пра нявіннасьць М. Кукабакі, запытвалі пра ягонае здароўе ды зазначалі, што ён хоча выехаць з Савецкага Саюзу. Таксама паведамлялася міністру аб арганізаванай перад савецкім пасольствам 30-га кастрычніка вахце салідарнасьці з М. Кукабакам.

У дзень вахты ўдзельнікі яе раздавалі праходзячым лістоўкі зь інфар-

*(Заканчэньне на 4-й б.)*

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

### НЬЮ-ЁРК

У нядзелю 22 лістапада ньюёрскі аддзел (Рычмонд-Гіл) адзначыў 67-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня. У царкве Сьв. Кірылы Тураўскага была адслужаная багаслужба. Правіў а. Усевалад Шэмяціла, хорам кіраваў сп. Сымон Жамойда. Пасьля літургіі й паніхіды па беларускіх змагарох, у часе якое стаяла сьцяжная варта ў асобе К. Мерляка й Ул. Пелясы, у залі Грамадзкага Цэнтру адбылася акадэмія, праграму якое вёў сп. К. Мерляк. Урачыстасьць пачалася амэрыканскім гімнам. У ўступным слове сп. Мерляк прывітаў аўдыторыю, сказаў аб мэце сьвяткаваньня, аб сучасным палітычным палажэньні ды заданьнях, якія стаяць перад намі.

Рэфэрат прачытаў сп. В. Шчэцька. Коратка падаў аб падзеях на Случчыне ў 1920 годзе ды прааналізаваў уплыў гэтых падзеяў на далейшы ход беларускага вызвольнага руху.

Сп. Мерляк прачытаў прысланыя прывітаньні ды таксама прывітаў гасьцей, у тым ліку суродзічаў зь Беласточчыны. Афіцыйная частка праграмы закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Адбыўся супольны абед, у часе якога была прыемная нагода пагаварыць пра бягучыя справы, спаткаць знаёмых, завязаць новыя знаёмствы. Жанчынам за добры беларускі абед належыцца вялікая падзяка.

**В. Ш.**

### НЬЮ-БРАНСЬВІК, Н.-ДЖ.

Сьвяткаваньне было ладжанае Задзіночаньнем Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў Усходняга Ўзьбярэжжа (старшыня — маёр С. Гутырчык).

У сыботу 28-га лістапада на Беларускім магільніку ў Іст-Брансьвіку магілы былі ўдэкараваныя бел-чырвона-белымі сьцяжкамі, а ля помніка Беларускім Гэроям адбылася ўрачыстасьць злажэньня вянка.

У нядзелю пасьля абедні ў царкве БАПЦ Жыровіцкае Маці Божае была адслужаная паніхіда па ўсіх тых, хто жыцьцё свае аддаў на службе Бацькаўшчыне, з удзелам сьцяжное варты (С. Гутырчык, М. Януш, В. Дубяга, У. Машанскі, Л. Шурак).

У падцаркоўнай залі адбылася акадэмія. Урачыстасьць пачалася вяцкай малітвай «Беларусь — наша Маці-краіна». Сябра вэтэранскай арганізацыі сп. Лявон Шурак сказаў тэкст прысягі на вернасьць амэрыканскаму сьцягу.

Др. Юрка Кіпель прачытаў паангельску, зь беларускім уступам, даклад пра горад Слуцак і слуцкія падзеі 1920 году. Дакладчык сказаў, што, рыхтуючы рэфэрат, ён шмат глыбей усьведаміў сабе тое, пра што раней цірaз чуў на падобных сьвяткаваньнях. Пазнаючы сваю мінуўшчыну, сказаў др. Ю. Кіпель, я адчуў гордасьць за гэраізм случчакоў і яшчэ больш пераканаўся ў справядлівасьці мэты, за якую яны змагаліся.

Даклад пабеларуску прачытаў др. Я. Запруднік — аб працэсе галоснасьці ў сучаснай Беларусі, у якім элемэнт мінуўшчыны адыграе нязвычайна важную ролю.

Сп. С. Гутырчык прачытаў інфарматыўны даклад зь гісторыі першага сьцягу беларускіх вэтэранаў на чужыне (гл. у іншым месцы гэтага нумару).

Пётра Звонны пад акардыён выканаў сваім мэлядычным голасам тры песьні: «Пад гоман вясёлы», «Ідуць жаўнеры-Беларусы» і «Ой, ды забалела маё сэрцайка». Да песьні «Ідуць жаўнеры» падсьпеўвалі слухачы на залі, чалавек семдзесят, шмат хто зь якіх прыгадаў сабе суровыя гады вайны, калі гэтая ды іншыя падобныя песьні трымалі людзей на духу й вялі наперад.

Перад афіцыйнай часткай быў абед, падгатаваны руплівымі сп-нямі Тамарай Януш, Галенай Каранеўскай і Л. Г.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

**З**

### САЎТ-РЫВЭР, Н.-ДЖ.

У нядзелю 29-га лістапада ў залі Беларускага Цэнтру сабраліся вэтэраны й невэтэраны, каб адзначыць дзень Слуцкага паўстаньня. Адчыніў урачыстасьць інж. Міхась Бахар. Па адсьпяваньні амэрыканскага гімну зьместоўны даклад прачытаў заступнік старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту сп. Віталі Цярпіцкі.

У мастацкай частцы выступілі з прынагоднымі новымі вершамі паэты Янка Золак і Міхась Кавыль. Хвілінай маўчаньня была ўшанаваная памяць удзельніка Слуцкага паўстаньня Івана Навумчыка.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**М. К.**

## ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ БВФ

Прадстаўнікі Беларускага Вызвольнага Фронту ўзялі ўдзел у міжнародных форумах:

— 27-28.VI.87 у Мюнхэне адбылася, арганізаваная Эўрапейскай Радай Свабоды, канфэрэнцыя, у якой узяло ўдзел больш за сто прадстаўнікоў свабодных і паняволеных народаў Эўропы. Канфэрэнцыя была прысьвечаная кантролю ўзброеньняў і бясьпецы Захаду. Ад Беларусаў на канфэрэнцыі быў сп. Д. Касмовіч, які зрабіў там даклад аб сучасным палажэньні на Беларусі. У прынятай рэзалюцыі сказана, што ў інтарэсах Захаду ляжыць падтрымваньне паняволеных народаў у іхным змаганьні за свабоду й незалежнасьць.

— 15-23.VIII.87 у Тайпэі на Тайване адбылася канфэрэнцыя Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі, у якой узяло ўдзел 471 дэлегат ад 133 нацыяў з усіх кантынэнтаў. Прэзыдэнты Нацыянальнага Кітаю, Злучаных Штатаў Амэрыкі, Парагваю ды іншыя высокія кіраўнікі прыслалі канфэрэнцыі свае прывітаньні. Беларуская дэлегацыя на гэтым форуме была ў складзе палк. Ўладзімера Шнэка, сп-ні Эміліі Шнэк і ад беларускае моладзі — сп-чны Рагнеды Шнэк, якая ўзяла ўдзел у праведзенай там-жа 3-й міжнароднай канфэрэнцыі Сусьветнай Лігі Моладзі за Свабоду. У супольным камунікаце ўдзельнікі канфэрэнцыяў заклікалі вольны Сьвет падтрымваць змаганьне паняволеных камунізмам народаў, у тым ліку й народу беларускага, за свабоду й незалежнасьць.

— 11-13.IX.87 у Фрыдрыхсгафэне (Зах. Нямеччына) адбыліся міжнародны зьезд Панэўрапейскай Акругі Альпы/Адрыя і сьвяткаваньне «Дня Бацькаўшчыны». На зьезд былі запрошаныя беларускія прадстаўнікі сп. Д. Касмовіч і сп-ня Надзея Міцкевіч-Касмовіч. Сп. Касмовіч у сваім прывітаньні зьезду сказаў, што беларускі народ імкнецца вызваліцца спад няволі й далучыцца да вольнай эўрапейскай сям'і народаў.

— 26-27.IX.87 адбыўся ў Донаўэшынгене кангрэс Баўгарскай Лігі правоў Чалавека. Запрошаны на кангрэс беларускі прадстаўнік сп. Д. Касмовіч, вітаючы ўдзельнікаў кангрэсу, падкрэсьліў салідарнасьць Беларусаў і Баўгараў у іхным змаганьні супраць бязбожнага тырана, зазначыўшы, што толькі хрысьціянская, вольная й дэмакратычная Эўропа можа гарантаваць народам правы чалавека й правы нацыі.

(Паводля «Абежніка» Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту, № 2, 1987).

### *САВЕЦКІ «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМ»*

За «круглым сталом» у Саюзе Пісьменьнікаў Беларусі, што адбыўся 10 верасьня сёлета на тэму «Роля літаратуры і мовы ў ідэйна-эстэтычным і маральным выхаваньні школьнікаў», пісьменьнікі дзяліліся сваймі назіраньнямі з удзелу ў жнівеньскіх канфэрэнцыях настаўнікаў, якія адбываюцца штагоду. Пісьменьнік Алесь Масарэнка ў сваім выступленьні сказаў («ЛіМ», 2.X.87):

«Я быў на Стаўбцоўшчыне, на радзіме Коласа. На канфэрэнцыі ніводзін яе ўдзельнік ня выступаў на роднай мове. На заўвагу наконт гэтага мне адказалі: а мы — інтэрнацыяналісты».

Гэткі вось «інтэрнацыяналізм» дбайліва культывуе на Беларусі кампартыя рэспублікі.

## ЮБІЛЕЙ ВЭТЭРАНСКАГА СЬЦЯГУ

***(Даклад старшыні ЗБАВ маёра Сяргея Гутырчыка на сьвяткаваньні ў Нью-Брансьвіку, Н. Дж., 29.XI.1987 г. 67-ых угодкаў Слуцкага паўстаньня пра першы сьцяг Беларускіх вэтэранаў на чужыне).***

Сьцяг Беларускае Народнае Рэспублікі быў устаноўлены Першым Усебеларускім Кангрэсам — прапарцыянальна бел-чырвона-белы.

Сьцяг Слуцкіх паўстанцаў 1920 году, войскаў БНР, пашылі слуцкія жанчыны з надпісам «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Як бачым, амэрыканскія й беларускія жанчыны адыгралі важную ролю ў змаганьні за свабоду сваіх бацькаўшчынаў. Слава ім!

Сьцяг вэтэранскай арганізацыі выконвае жыцьцёва важную ролю: няма сьцягу — няма й арганізацыі.

Арганізацыя Беларускіх Камбатантаў была заснаваная у кастрычніку 1945 г. ў гор. Рэгензбургу ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны. На пачатку 1946 г. ген. Франьціш Кушаль афіцыйна зьвярнуўся да УНРА з просьбай залегалізаваць арганізацыю былых беларускіх вайскавікоў пад назовам «Задзіночаньне Беларускіх Камбатантаў на Чужыне». УНРА адмовіла. Тады-ж, у 1946 годзе, Беларусы з ДП лягеру ў Рэгензбургу былі перасеценыя ў Міхельсдорф каля гораду Каму. Пасьля таго як ДП лягеры былі перанятыя арганізацыяй ІРО ў 1947 г. ген. Кушаль ізноў пачаў стараньні аб легалізацыі згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Справа цягнулася доўга. ІРО паведаміла, што арганізацыя можа быць залегалізаваная, але пад назовам, у якім ня будзе слова «камбатанты», а «вэтэраны». Гэтак паўстала Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне. У Амэрыканскай зоне Нямеччыны хутка пачалі засноўвацца аддзелы новага задзіночаньня: у Віньдзішбэргердорфе на чале з кап. Данілам Клінцэвічам, у Міхельсдорфе на чале з кап. Міколам Маляўкам, у Остэргофэне — на чале зь лейт. Віталем Кажаном.

Паводля амэрыканскіх акупацыйных уладаў і статуту ІРО, кожная арганізацыя вайсковага характару павіна была мець свой сьцяг. Ген. Ф. Кушаль зьвярнуўся з просьбаю да сп. Юркі Харытончыка, як былога слуцкага паўстанца, каб той знайшоў чалавека, які пашыў-бы й вышыў вэтэранскі сьцяг. Ю. Харытончык меў характар адміністратара, добра ведаў жыхароў лягеру Міхельсдорф, і зьвярнуўся да сп. Аляксандра Асіпчыка, як мастака ручное працы, з прапановай вышыць вэтэранскі сьцяг. Асіпчык запэўніў, што зробіць гэта, паколькі ён і сам вэтэран. На шчасьце, у яго захаваўся чырвоны матар'ял яшчэ з Бацькаўшчыны. Ён яго і ахвярваў на сьцяг. Сп. Васіль Захаркевіч ахвяраваў белы матар'ял, і гэткім чынам быў пашыты першы сьцяг Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне. Сёньня мы ўрачыста адзначаем 40-годзьдзе гэтага сьцягу. Слава яму!

Уручэньне сьцягу адбылося ў дзень сьвяткаваньня 27-х угодкаў Слуцкага збройнага Чыну ў Віньдзішбэргердорфе. Таго-ж самага дня адбыўся вэтэранскі парад. Рапарт ген. Кушалю здаваў кап. Даніла Клінцэвіч. Увечары ў лягернай залі адбыўся канцэрт з выступленьнем мяшанага хору пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Равенскага. Зь вялікай удачай пачаў сваю гісторыю першы сьцяг Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне!

Настаў пэрыяд эміграцыі Беларусаў зь Нямеччыны ў ЗША ды іншыя краіны, вэтэранская дзейнасьць часова прыпынілася. Ген. Ф. Кушаль перасяліўся ў Нью-Ёрк і пачаў там захады аб зарэгістраваньні Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў пры арганізацыі амэрыканскіх вэтэранаў. У гэтай справе шмат памог яму Янка Ніхаёнак як амэрыканскі грамадзянін. Беларускія вэтэраны былі зарэгістраваныя пры арганізацыі Амэрыканскія Вэтэраны Замежных Войнаў. У 1953 г. першы сьцяг Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне быў пранесены па Пятай Авэню гораду Нью-Ёрку ў парадзе Дня Ляяльнасьці.

Па сьмерці ген. Ф. Кушаля й кап. Д. Клінцэвіча вэтэранская арганізацыя ў Нью-Ёрку аслабела, але затое паўстаў моцны аддзел ЗБВ у штаце Нью-Джэрзы. У 1965 г. амэрыканская арганізацыя Вэтэранс Алаенс оф Рарытэн Валэй зарганізавала парад на падтрыманьне палітыкі Прэзыдэнта Л. Джонсана ў Віетнаме. На парад было запрошанае таксама Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў. Тады й быў прадэманстраваны ўпяршыню на вуліцах гор. Нью-Брансьвіку першы сьцяг беларускіх вэтэранаў ды пераданы ньюджэрзыйскаму аддзелу ЗБВ. Неўзабаве быў дапоўнены й назоў арганізацыі — Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Амэрыцы.

За мінулыя гады беларускі вэтэранскі сьцяг атрымаў восем узнагародаў-істужак за ўдзел у парадах, на якіх ён быў горача вітаны гледачамі.

За сорак гадоў сьцяг зьмяніў свае калёры, пастарэў, пастарэлі зь ім і вэтэраны. Не паслаблі ў іх толькі запал душы і вернасьць свайму белчырвона-беламу штандару.



*У часе тыдня Славянскай Спадчыны, што адзначаўся ў Нью-Ёрку 19-24 кастрычніка сёлета, была наладжаная выстаўка народнай вопраткі славянскіх народаў у памешканьні Ўкраінскага Інстытуту ў Амэрыцы. На выстаўцы былі паказаныя народны касьцюм зь вёскі Коцяўшчына на Ашмяншчыне (касьцюм — собскасьць сп.а Антона Шукелайця) і жаноцкі касьцюм зь вёскі Новы Двор на Горадзеншчыне (собскасьць сп-чны Раісы Станкевіч). Выстаўка была высака ацэненая наведнікамі.*

## У АБАРОНУ М. КУКАБАКІ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

мацыяй аб нялюдзкіх зьдзеках над Кукабакам, які ніякай шкоды ня ўчыніў, а толькі не пагадзіўся з палітыкай ураду ў часе ўводу савецкага войска ў Чэхаславаччыну. Зьбіраліся подпісы ад праходжых. Людзі спачувальна падпісваліся пад пэтыцыяй, побач партрэту М. Кукабакі ды некалькіх абразоў зь ягонага зьняволеньня.

**А. Зданковіч**

### «ЗВАЖАЙ» № 4(48)

У нумары 4-м (48-м) часапісу Беларускіх Вэтэранаў «Зважай» зьмешчаныя: праект статуту заплянаванае Фундацыі імя Франьцішка Багушэвіча; В. Сянькевіч — Да 175-годзьдзя аднаўленьня Вялікага Княства Літоўскага; Я. Б-ка — Вайна 1812 году і беларускія Жыды; хроніка ўшанаваньня памяці Алеся Гаруна; ілюстраваны рэпартаж пра адзначэньне ў Таронце ўгодкаў умовы Сталіна зь Гітлерам; нататка пра юбілей Старшыні Рады БНР др. Я. Сажыча; абвесткі.

## СЦЭНЗУРАВАНЫ В. БЫКАЎ

У вялікім амэрыканскім выдавецтве «Гарпэр энд Роў» выйшла нядаўна кніжка амэрыканскага аўтара Марка Фрэнкленда The Sixth Continent. Russia and the Making of Mikhail Gorbachov (1987, 292 б.). Гэта ўжо, дарэчы, ня першая кніжка аўтара аб Савецкім Саюзе.

У новай кнізе Марк Фрэнкленд дасьледуе працэс зьменаў у Савецкім Саюзе. Аўтар сьцьвярджае, што зьмены адбываюцца, аднак, кажа ён, яшчэ зарана прадказваць памеры «перабудовы». Дасьледнік падкрасьляе, што зьмены пачаліся ўжо за часамі папярэднікаў Гарбачова. Прыкладам, у літаратуры, піша аўтар, зьявіліся гэткія новыя творы, як «Знак бяды» Васіля Быкава, у якім выдатна й праўдзіва апісаная калектывізацыя й падзеі ў жыцьці сялянства ў 1930-х гадох. Далей-жа Марк Фрэнкленд сьцьвярджае: «Твор Васіля Быкава ў расейскім перакладзе атрымаў Ленінскую прэмію. Але іронія тут, што расейскамоўнае выданьне кнігі было непараўнальна больш сцэнзураванае, як беларускамоўны арыгінал, і ў выніку расейскамоўны твор у некаторых месцах стаўся проста незразумелым».



*Арганізатары і ўдзельнікі беларускага стэнду на міжэтнічным фэсьтвалі ў Пэнсыльваніі ў кастрычніку сёлета. Зьлева направа: Тамара Кольба (Стагановіч), Надзя Кудасава, Галіна Русак і Галіна Кучура (Вайцяхоўская). Пра фэстываль гл. «Беларус» № 340.*

### ЮБІЛЕЙ ПАЭТА ЯНКІ ЗОЛАКА

Паэту Янку Золаку (Антону Даніловічу) споўнілася 1-га лістапада сёлета 75 гадоў. У сувязі з гэтым 15 лістапада ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры, Н.-Дж., сабралася ладная колькасьць сяброў, прыхільнікаў і суседзяў-Амэрыканцаў, каб ушанаваць нашага выдатнага паэта.

«Віноўнікамі» гэтай бяседы былі прыёмныя дзеці Янкі Золака ад першай жонкі, нябожчыцы Лідзіі Каліноўскай. Тост-мастэрам была Леаніла Татум (Каліноўская). Прамаўлялі й віншавалі Янку Золака Віталі Цярпіцкі, інж. Міхась Бахар. Паэты Міхась Кавыль і Масей Сяднёў прачыталі свае вершы, прысьвечаныя юбіляру, а прывітаньне й верш Пятра Звоннага прачытаў Янка Золак.

**М. К.**

**ЯНКА ЗОЛАК**

СПАДЗЯВАНЬНІ Й МАРЫ

***Мае спадзяваньні й мары усе,***
***як дым у блакіце, расталі.***
***Ізноў адзінота, як сябра-сусед,***
***Мяне кліча-вабіць у далі.***

***Ды шляхам адвечным маё йдзе***
***жыцьцё,***
***Гайдае, як чайку на хвалях.***
***Я зь ціхай мальбою далоні прасьцёр:***
***Заву сваю песьню з аддаляў.***

***Яна, як сяброўка, ідзе да мяне***
***І ласкава зорыць у вочы;***
***Ня кратае ранаў душы, не кляне,***
***А мне аддаецца ахвоча.***

***І зь ёю нуда маё сэрца ня сьсе,***
***І чары ка мне завіталі,***
***І мары мае, спадзяваньні усе,***
***Як вырай, вяртаюцца з даляў.***

*РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «БЕЛАРУС» ШЧЫРА ВІТАЕ ПАЭТА ЯНКУ ЗОЛАКА (АНТОНА ДАНІЛОВІЧА) ЗЬ 75-МІ ЎГОДКАМІ ЖЫЦЬЦЯ ДЫ ЗЫЧЫЦЬ ШМАТ ГАДОЎ ДОБРАГА ЗДАРОЎЯ Й ДАЛЕЙШАГА ТВОРЧАГА ПЛЁНУ.*

## ПЕРАСТРАХОЎШЧЫКІ Ў «ПОЛЫМІ»

Які лік сталінскіх ахвяраў? Колькі людзей было зьнішчана 1930-мі гадамі на Беларусі? Пытаньне ахвяраў сталіншчыны сёньня — у цэнтры савецкага ўсесаюзнага друку, хоць і не ўва ўсіх аспэктах яно разглядаецца.

У сваім дакладзе, прысьвечаным 70-годзьдзю рэвалюцыі, Міхаіл Гарбачоў сказаў, што паніштачаных Сталінам людзей было «шмат тысячаў», тымчасам як іх былі мільёны. Дарэчы, савецкія гісторыкі Сьмірноў і Палякоў на прэсканфэрэнцыі ў Маскве 5-га лістапада сёлета заявілі, што няма канкрэтных дадзеных пра лік ахвяраў сталіншчыны. Паводля ацэнак гісторыка Палякова, загінула «больш як мільён» людзей. Але, прыкладам, пісьменьнік Салжаніцын і акадэмік Андрэй Сахараў карыстаюцца лікам «больш за 10 мільёнаў».

Сказаўшы ў сваім дакладзе, што Сталін зьнішчыў «шмат тысячаў» людзей, Гарбачоў паабяцаў народу, што створаная адмысловая камісія зоймецца расьсьледваньнем сталінскіх злачынстваў.

Але колькі-б ні было ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, пра іх сёньня піша савецкі цэнтральны друк. А вось беларускія савецкія публікацыі паранейшаму блізу поўнасьцяй маўчаць. Асабліва гэта відавочна ў часапісе «Полымя». Чытаючы гэты часапіс, ягоную рубрыку «Наш каляндар», нідзе не даведаешся, чаму той ці іншы пісьменьнік раптам апыняецца ў Сібіры, чаму ў маладым веку канчае жыцьцё. Вось, прыкладам, сёлётні жнівеньскі нумар «Полымя» падаў весткі пра юбілейныя даты з жыцьця колькіх беларускіх празаікаў і паэтаў: Васіля Каваля, Барыса Мікуліча, Эдуарда Самуйлёнка, Аркадзя Чарнышэвіча. «Полымя» ні словам не абмовілася пра арышт і зьняволеньне Барыса Мікуліча, Аркадзя Чарнышэвіча, Васіля Каваля. Орган Саюзу Пісьменьнікаў БССР часапіс «Полымя» і пры новым сваім рэдактары, Сяргею Законьнікаву, баіцца сказаць свайму чытачу, кшто Мікуліч, Чарнышэвіч, Каваль, як і дзесяткі, сотні, тысячы іншых дзеячоў культуры, сталіся ахвярамі рэпрэсіяў. Часапіс «Полымя» дэманструе гэтым толькі сваю трусьлівасьць, бо-ж нікога ён не падмане сваім маўчаньнем. Пагатоў, што, прыкладам, пра ссылку Барыса Мікуліча пісаў сёлета часапіс «Неман», выдрукаваўшы ягоную «Аповесьць для сябе» з уступным словам Сяргея Грахоўскага, таксама ахвяры сталінскіх рэпрэсіяў. Чаму-ж «Полымя» ня хоча пісаць пра свае нацыянальныя ахвяры, называць іхныя імёны? Іншыя-ж органы савецкага друку пішуць пра гэта. Як відаць, ставіць пытаньне аб ліку сталінскіх ахвяраў на Беларусі ня сталася яшчэ нормай перабудовы ў рэспубліцы. Але паколькі некаторыя менскія газэты й часапісы пішуць пра пэўныя мамэнты рэпрэсіяў на Беларусі, з гэтага відаць, што сказаць або прамаўчаць пра ахвяры 30-ых гадоў залежыць ад мужнасьці й прынцыповасьці тае ці іншае рэдакцыйнае калегіі. Гэткімі маральнымі якасьцямі рэдкалегія часапісу «Полымя», нажаль, пахваліцца тымчасам яшчэ ня можа.

**Алесь Васілеўскі**

### У АНГЛА-БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ

На гадавым перавыбарным сходзе Англа-Беларускага Таварыства, які адбыўся 3 сьнежня сёлета, абраная ўправа ў гэткім складзе: старшыня — сп. Дж. Дынглей, заступнікі старшыні — мнср. А. Надсон і сп. Г. Пікарда, сакратар — др. Л. Гюз, скарбнік — сп. П. Асіповіч, рэдактар «Журналу Беларусаведы» — др. П. Майо, сябры — сп. Я. Міхалюк і сп. С. Дзейка.

### *«ПОЛЬСКІЯ ДАСЬЛЕДНІКІ БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛЁРУ»*

Пад гэткім загалоўкам польскі беластоцкі часапіс «Контрасты» (№ 3, сакавік 1987) зьмясціў рэцэнзію Міхала Шаховіча на кнігу Мсьціслава Аляхновіча «Польскія дасьледнікі беларускага фальклёру й мовы ў XIX ст.». Кніга выйшла летась у Лодзі (251 б., цана: 300 зл.).

Рэцэнзэнт зазначае: «Цяжка было-б уявіць сабе найлепшыя творы Тамаша Зана, Яна Чачота ці Ануфрыя Петрашкевіча бяз гутарак, паданьняў і казак беларускіх».

Польскія дасьледнікі беларускага фальклёру, піша Шаховіч, былі тэмай шмат якіх артыкулаў і працаў у мінулым. Але ўпяршыню праф. М. Аляхновіч даў шырокі агляд гэтага пытаньня, сабраў у адно багаты дакумэнтальны матар'ял і падаў яго ў сыстэматызаваным выглядзе.

## *«СКАРБЫ СУСЬВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ»*

У Саюзе Пісьменьнікаў Беларусі шмат гутарак вядзецца цяпер аб выданьні ў беларускім перакладзе твораў сусьветнае літаратуры. У кастрычніку сёлета на сходзе сэкцыі мастацкага перакладу і літаратурных ўзаемасувязяў, як падала газэта «Літаратура і Мастацтва» (6.XI.87), абмяркоўвалася пытаньне выданьня сэрыі «Скарбы сусьветнай літаратуры». Пісьменьнік Барыс Сачанка, загадчык рэдакцыі мастацкага перакладу выдавецтва «Мастацкая літаратура» сказаў: «Мы выбралі 300 твораў, якія хацелі-б бачыць на беларускай мове, і разбілі іх на тры сэрыі: 'Бібліятэка замежнай прозы', 'Паэзія народаў сьвету' і 'Скарбы сусьветнай літаратуры'».

Першы сакратар СП БССР Ніл Гілевіч паўтарыў яшчэ раз казанае ім раней: «Або мы будзем існаваць як культурная нацыя і будзем мець творы сусьветнай літаратуры на роднай мове, альбо не — і зьмірымся са сваім лёсам. Адкінем-жа наш пэсымізм і сумненьні!»

На нарадзе выказваліся прапановы, каб беларускую сэрыю не рабіць скарочанай вэрсіяй расейскае сэрыі «Библиотека всемирной литературы», а асаблівую ўвагу зьвярнуць на творы, якія маюць дачыненьне да Беларусі. «Любое выданьне, — сказаў удзельнік дыскусіі К. Шэрман, — павінна быць зьвязана з традыцыяй нацыянальнай культуры, з нацыянальнай праблематыкай».

На нарадзе выказвалася ўстурбаванасьць, што не стае патрэбных перакладніцкіх і рэдактарскіх кадраў для гэткага манумэнтальнага праекту. Тым ня менш, як сказаў старшыня сэкцыі мастацкага перакладу Вячаслаў Рагойша: «Усе пагадзіліся з тым, што сэрыя 'Скарбы сусьветнай літаратуры' — патрэбная. Яна павінна стаць прэстыжнай, стаць зьявай у культурным жыцьці рэспублікі. Радуе той факт, — зазначыў Рагойша, — што ўсе мы прыйшлі да адзінай высновы — творы павінны перакладацца толькі з арыгіналу і, канечне, варта нам было-б падумаць таксама і пра выданьне сэрыі 'Скарбы нацыянальнай літаратуры'».

Удзельнік дыскусіі М. Дубнецкі выказаў думку, што ў сэрыі «Скарбаў сусьветнай літаратуры» трэба было-б выдаць «Біблію» Францішка Скарыны. «Нашыя 'Скарбы...' бяз гэтага твору, — сказаў Дубянецкі, — будуць няпоўныя».

Газэта «Чырвоная зьмена» (21.X.87) паведаміла пра далейшае трываньне конкурсу, абвешчанага Дзяржкамвыдам БССР і выдавецтвам «Мастацкая літаратура» на мастацка-паліграфічнае афармленьне новай кніжнай сэрыі «Скарбы сусьветнай літаратуры». Сэрыю плянуецца выпусьціць на працягу 15 гадоў, пачынаючы ад 1989 году. У 1989-1990 гадох выйдуць творы: У. Шэкспіра, П. Мэрымэ, Т. Мана, М. Гогаля, Т. Шаўчэнкі, Г. Лангфэла, У. Ўітмэна, І. Андрыча, М. Лермантава, М. Горкага, І. Буніна, А. Купрына.

На нарадзе ў СП БССР, пра якую паведаміла «ЛіМ», адзін з удзельнікаў сказаў: «Мне здаецца, што ў сьпісе замнога перакладаў з расейскай літаратуры, якую чытачы ахвотней будуць чытаць у арыгінале». Б. Сачанка гаварыў раней, што праект выданьня «яшчэ не канчатковы і да гэтага дня ідзе яго абмеркаваньне».

## *ПЕСЬНІ ДАНЧЫКА*




Найлепшы сьвяточны падарунак або проста падарунак пры наведваньні каго-небудзь — Данчыкава кружэлка або касэтка зь беларускімі лірычнымі й патрыятычнымі песьнямі. Дарэчы, Данчыкава апошняя кружэлка вельмі папулярная цяпер на Беларусі.

Яе можна набыць за 15 даляраў (плюс кошт перасылкі: 2,50 дал. у ЗША), пішучы на адрас:

Mrs. J. Andrusyshyn
430 East 6 St., Apt. 3C
New York, N.Y. 10009

### *З «дасягненьняў» савецкай улады*

«Карты на беларускай мове даўно не выдаюцца, нават для школьнікаў». («ЛіМ», 25.IX.87).

*З жыцьця Кліўленду*

## ЗАКАНЧЭНЬНЕ СЭЗОНУ ПІКНІКАЎ НА ПОЛАЦКУ

У нядзелю 19 кастрычніка закончыўся сэзон пікнікаў, што адбываліся ў грамадзкім цэнтры «Полацак». Пікнікі пачынаюцца ў канцы травеня на «памінальны дзень» (Мэморыял Дэй), а канчаюцца ў кастрычніку. Ладзяцца яны пераважна нядзелямі ўправай Полацку, а таксама арганізацыямі калёніі: парафіяй Жыровіцкае Божае Маці, аддзеламі БАЗА, моладзі, вэтэранаў, Рэспубліканскім Клюбам. У буднія дні, пераважна сыботы, грамадзяне калёніі ладзяць свае прыватныя сьвяткаваньні, як заканчэньне школы дзяцей, прыняцьцё (шаўэр) для маладое або для маці, якая спадзяецца дзіцяці, сямейныя гадавіны, на якія пераважна запрашаюць усіх жыхароў калёніі.

У праграму пікнікаў уваходзіць абед, падрыхтаваны пераважна больш ахвярнымі жанчынамі. Па абедзе вольны час праводзяць хто як: моладзь займаецца больш спортам (валейбол, пін-понг, плаваньне на лодцы), старэйшыя аддаюць перавагу гульням, груповым гутаркам, сьпяваньню народных песьняў.

Арганізацыі калёніі выкарыстоўваюць гэтыя зборы для паседжаньняў управы. Такія спатканьні мацуюць лучнасьць паміж грамадзянамі калёніі.

### ДАКЛАД ПРАФ. А. БАРШЧЭЎСКАГА

Праграма заканчэньня сэзону пачалася абедніцай, якую адслужыў у залі Полацку Прат. а. Міхась Страпко, з удзелам хору, вялікай грамадой вернікаў. У канцы службы а. Міхась сказаў добрую казань, прывітаў гасьцей з Дэтройту, Таронта ды двух гасьцей з-за акіяну — з Польшчы: прафэсараў Варшаўскага Ўнівэрсытэту Альбэрта Барташэвіча й Аляксандра Баршчэўскага.

Абед прайшоў добра, у вясёлым настроі.

У залі Полацку адбыўся даклад кіраўніка катэдры Беларускае філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту др. Аляксандра Баршчэўскага (Барскага). Сп. С. Карніловіч прывітаў далёкіх гасьцей ад імя калёніі.

Праф. Баршчэўскі гаварыў пра жыцьцё Беларусаў на Беласточчыне, якіх налічваецца цяпер прыблізна 300 тысячаў. Бальшыня зь іх жывуць у вёсках, але моладзь масава перасяляецца ў гарады. Справа беларускай асьветы вядзецца катэдрай Беларускай філялёгіі пры Варшаўскім Унівэрсытэце, двума ліцэямі й беларускімі пачатковымі школамі. Дакладчык расказаў пра дзейнасьць арганізацыяў грамадзкіх, студэнцкіх, гурткоў мастацкай самадзейнасьці, паведаміў пра ход пабудовы беларускага музэю ў Гайнаўцы, заклікаў памагчы гэтаму будаўніцтву грашыма. Далей паэт прадэклямаваў колькі сваіх вершаў, што вельмі захапілі аўдыторыю, асабліва верш «Маці».

Удзельнікі сустрэчы шчыра дзякавалі сп. Баршчэўскаму-Барскаму за добры даклад, высока ацанілі ягоную творчасьць.

І так закончыўся сэзон пікнікаў у Полацку: памаліліся, паслухалі цікавы даклад ды правялі крыху час ў вясёлай сяброўскай атмасфэры.

**К. П.**

## «ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ГІСТОРЫІ КЛІЎЛЕНДУ»

У горадзе Кліўленьдзе 16 лістапада была ўрачыста ўручаная прадстаўнікам гарадзкіх і штатных уладаў нававыданая «Энцыкляпэдыя гісторыі Кліўленду». Урачыстасьць адбылася ў Вэстэрн-Рэзэрваўскім Унівэрсытэце. Адчыняючы ўрачыстасьць, рэктар у-ту праф. Агнар Пайт падкрэсьліў, што кліўлендзкая энцыкляпэдыя — першая такога роду публікацыя ў Злучаных Штатах, і горад Кліўленд ды штат Агаё маюць права ганарыцца гэткім здабыткам. Энцыкляпэдыя гэтая, сказаў праф. Пайт, станецца прататыпам падобных даведнікаў для іншых гарадоў Амэрыкі.

На ўрачыстасьці былі прадстаўнікі фэдэральных уладаў, акадэміцкага сьвету ды прамысловых колаў. Ад Беларусаў у ўрачыстасьці ўзяў удзел др. Вітаўт Кіпель, які напісаў у энцыклярэдыю артыкул аб Беларусах гораду Кліўленду. Энцыкляпэдыя налічвае больш за тысячу старонак ды мае панад дзьве тысячы больших і меншых артыкулаў. Кніга выйшла ў выдавецтве ўнівэрсытэту штату Індыяна. Зацікаўленыя набыць энцыкляпэдыю могуць зварачацца да аддзелу БАЗА ў Кліўленьдзе або беспасярэдня ў выдавецтва. Цана выданьня — 38 даляраў.



*Дзіцячы садок у Менску. Фатаграфія зробленая замежным турыстам у 1985 годзе. Заўважце нярісьменнасьць у беларускім альфабэце: расейская літара «щ».*

Выйшла з друку й прадаецца новая кніга (раман) Масея Сяднёва пад назовам «І той дзень надыйшоў» Галоўны гэрой кнігі — беларускі студэнт, што падчас Другой сусьветнай вайны апынуўся ў драматычнай сытуацыі — між немцамі-акупантамі і савецкімі партызанамі. У кнізе 246 балонак. Цана кнігі 15 даляраў. Кнігу можна набыць у аўтара: Masej Sednew
15 Alex Lane
Glen Cove, N.Y., 11542

## З МАЙГО ПАДАРОЖЖА ПА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ

*(Працяг; пачатак гл. у № 340)*

Калі мы позна ўвечары вярнуліся з Бандэльерскага Парку, да нашай групкі далучыўся Юзік зь Лёс-Анджэлесу. Забралі мы яго, з маленькімі прыгодамі, зь лётнішча ў Альбукерку. Юзік — наш сябра зь перадваенных гімназіяльных гадоў. Як-жа прыемна было тут яго спаткаць ізноў!

Ужо разам зь ім мы яшчэ раз зьведалі Санта-Фэ ды выбраліся ў наступнае падарожжа ў Таос-Пуэблё. Дарога надзвычай маляўнічая, паміж гораў, уздоўж бурлівых рэчак, праз старыя сярэднявечныя гішпанскія вёскі з прыгожымі касьцёламі.

Коратка перад горадам Таос нашая дарога пертварылася ў імклівы водны паток! Навальніца, а пасьля град! Фэнамэн напэўна рэдкі для гэтага гарачага краю, а для Юзіка ў Каліфорніі ён быў сапраўдным спэктаклем.

Таос — горад мастакоў, але мы яго ня зьведвалі. Нашай мэтай была Таос-Пуэблё, адна з самых старых і бесьперапынна заселеных вёсак Індыянаў Таос-Тыва. Прыгожая старая архітэктура, вялікія дамы — сьветчаньне калішняга багацьця. Нажаль, маленькі халодны дожджык, пахмурнае неба зрабілі ўсе будынкі шэрымі, а вялікую плошчу пустой. Жыхары пахаваліся па дамох.

Індыяне жывуць часткова зь дзяржаўнай дапамогі, крыху зь сельскай гаспадаркі, гадоўлі быдла, з рамёслаў. Гліняныя вырабы, тканыя дываны, хлеб, выпечаны ў іхных адмысловых печах — вельмі смачны — прадаюць турыстам. Аднак навокала відаць беднната, запушчанасьць.

Разьвітаўшыся з прыгажуняй Санта-Фэ, мы ізноў у вялікай дарозе на Захад. Мінуўшы Альбукерк, Грантс, мы ўсё-ж затрымаліся на Кантынэнтальным Падзеле — лініі, ад якое воды плывуць у Ціхі акіян і Атлянтычны. Хацелася зрабіць памяткавую фатаграфію ды купіць што-небудзь на ўспамін.

Крыху далей — Галуп, паўдзённа-заходні цэнтар індыянскага мастацкага вырабу й культуры. Магазыны — адзін каля аднаго, запоўненыя гэтым багацьцем. Цудоўныя вырабы з гліны. Але калі імя мастака ведамае — Мэры Смол ці падобнае — цэны даволі высокія. Праўда, крыху патаргаваўшыся, як гэта ўмее Юзік, можна іх даволі ладна зьніэіць. Скарысталі з гэтага й мы.

Уражаньне з Галупа прыгнятаючае: вуліцы перапоўненыя Індыянамі. Назаўтра меўся там адбыцца нейкі фэстываль. Зьехаліся самаходамі адусюль. Каб правесьці час і разьвесяліцца, — алькаголь. Вось і бачыш на вуліцы п'яных мужчынаў і жанчын. Прыстаюць, каб атрымаць даляра ці два. І неяк чуешся няпэўна. Я быў рады, калі пакінулі гэты горад.

Ізноў дарога простая, шырокая. Самаходаў мала. Можна ехаць! Эўрапеец напэўна ехаў-бы нейкіх 130-160 кілямэтраў (прыблізна 80-100 міляў на гадзіну), а то й больш. Але не Амэрыканец. Гэты трымаецца хуткасьці 55-60 міляў і ня больш. Здысцыплінаванасьць, што напэўна ўжо ўвайшла ў звычку, норму. Закон на тое, каб яго даглядаць. Бэльгіец у даным выпадку напэўна сказаў-бы, што закон на тое, каб яго парушаць. Праўда, дзеля гэтага ў Бэльгійца ёсьць пэўнае апраўданьне. Жыўшы стагодзьдзямі пад акупацыямі то гішпанскай, то аўстрыяцкай, то галяндзкай, францускай ці іншай, адным з довадаў ягонага патрыятычнага супраціву і было парушаньне законаў акупанта. Гэтая рыска паводзінаў і засталася да сёньняшняга дня. У Амэрыцы самадысцыпліна заўважаецца ўсюды: у гарадзкім руху, у якой колечы чарзе да аўтобусу ці ў які музэй. Спакойна, парадкам.

Едзем мы далей нашых 65 міляў на гадзіну і не шкадуем. Седзячы зь Юзікам ззаду, прынамся мелі час успомніць старыну, пагаварыць пра цяперашчыну ды пра палітычныя праблемы часу. Аж Галіна часамі падымала голас, каб нас крыху супакоіць, прыцішыць. Ну што-ж, за сорак гадоў магло назьбірацца шмат чаго да гутаркі.

**А. Арэшка**

*(Працяг у наступным нумары)*

## «ПЕРАБУДОВА»

### *ЯК «ЗБЛІЖАЦЬ ЛЁЗУНГІ З ЖЫЦЬЦЁМ»?*

На пленуме ўправы Саюзу Пісьменьнікаў БССР галоўны дакладчык, паэт Васіль Зуёнак, даў гэткую параду, як пачынаць «перабудову», якая ня надта хоча кранацца зь месца.

«Зь сябе пачынаць перабудову, — гэта тычыцца і нас, пісьменьнікаў, і шырэй — усіх, будучых гэрояў нашых твораў, а найперш тых, хто, заўважаючы 'парушынкі' ў чужым воку, у сваім ня бачыць бервяна, хто цьвердзіць штадзённа аб усталяваньні сацыяльнай справядлівасьці, і з такой-жа штадзённай пастаяннасьцю да ягонага пад'езду падкатвае машына з такім шырокім і тоўстым задам, і пад акампанемэнт гэтага лёзунгу вёрткі шафёр-экспэдытар валачэ ў кватэру чамадан з правізіяй. А людзі ўсё-ж гэта бачаць і ацэньваюць... Яно, зразумела, чалавек заняты — аформіў заказ з дастаўкай на дом. І гэта было-б па справядлівасьці, калі-б тое-ж самае і з тым-жа самым мог зрабіць кожны просты рабочы ў кожным бліжэйшым магазыне. Пакуль-жа гэта не забясьпечана, то, відаць, справядлівей будзе, каб жонка таго-ж занятага таварыша, скажам, міністра гандлю ці яго намесьнікаў, штадня сустракалася ля прылаўку ў чарзе з жонкай рабочага, і вечарам дакладвала мужу-міністру, як трэба палепшыць гандлёвую справу. Давайце так збліжаць лёзунгі з жыцьцём!».

(«Літаратура і Мастацтва», 13.XI.87).

### У МАСТАЦТВЕ ЗАСТОЙ

«У грамадзкім жыцьці ідзе рэвалюцыйная перабудова. А ў выяўленчым мастацтве? Як і раней, экспанаты нашых выставак вапраменьваюць ялей самазаспакоенасьці, задаволенасьці, індыфэрэнтнасьці. ...

«Будзем шчырымі: перабудова пакуль не кранулася практыкі мастацкай творчасьці». (Барыс Крэпак. Катацца па ркузе? «ЛіМ», 25.IX.87).

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдне ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Аддзел БАЗА, Нью-Ёрк | ам.д. 462 |
| В. і З. Кіпель | 125 |
| У. і Л. Брылеўскі | 100 |
| М. Смаршчок | 100 |
| Б. Дубоўскі | 50 |
| А. Ліхач | 50 |
| Л. Дуржэнка | 50 |
| В. і М. Махнач | 50 |
| М. Кіпель | 50 |
| А. Чарнэцкая | 30 |
| І. Ільчук | 30 |
| М. Войтанка | 25 |
| Г. Сянькевіч | 25 |
| М. Ягаўдзік | 25 |
| Ю. Андрусышын | 25 |
| Я. Каханоўская | 25 |
| Н. Жызьнеўскі | 20 |
| М. Чупракоў | 20 |
| В. Шчэцька | 20 |
| М. Клімюк | 15 |
| В. Кажан | 15 |
| К. Калоша | 10 |
| а. М. Страпко | 10 |
| І. Каханоўская | 10 |
| К. Каляда | 10 |
| Я. Ханенка | 10 |
| Заміж кветак на магілу св. пам. О. Запруднік | |
| В. і В. Рамук | 50 |
| З. Смаршчок | 50 |
| Н. і А. Непейн | 20 |
| Усяго | 1482 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| К. Жыхар | 60 |
| Аддзел ЗБАВэт. у Н.-Дж. | 50 |
| А. Непейн | 30 |
| Ю. Попка (Бел. Музэй у З. Ням.) | 30 |
| П. Орса | 30 |
| Н. Гурын | 25 |
| Ю. Наумчык | 20 |
| М. Палюховіч | 15 |
| А. Махнюк | 15 |
| У. Шульжыцкі | 15 |
| А. Нэстар | 15 |
| П. Кулеш | 15 |
| М. Касьцюк | 15 |
| У. Сьліўка | 10 |
| А. Дубяга | 10 |
| Я. Азарка | 10 |
| М. Тулейка | 10 |
| М. Каранеўскі | 10 |
| Т. Супрун | 10 |
| Г. М. | 5 |
| Усяго | 400 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. А. Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| К. Калоша | 100 |
| С. П. | 50 |
| Г. Лук'янчык | 50 |
| А. Стрэчань | 50 |
| К. Каляда | 30 |
| Г. Кананчук | 25 |
| В. Яцэвіч | 25 |
| Я. Раковіч | 25 |
| С. Махахей | 25 |
| Я. Каваленка | 20 |
| К. Матальцкі | 20 |
| М. Страпко | 20 |
| А. Яраховіч | 20 |
| Н. Яраховіч | 20 |
| Ю. Гасьцееў | 20 |
| А. Сацэвіч | 20 |
| З продажу газэтаў | 38 |
| Усяго | 583 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Праз нашага прадстаўніка сп. У. Акавітага:*

| | |
|---|---|
| а. М. Бурнос | аўст.д. 30 |
| У. Акавіты | 30 |
| Др. Мілецэвіч | 30 |
| П. Пачопка | 30 |
| А. Садоўскі | 25 |
| М. Костышын | 25 |
| Е. Трысмакова | 25 |
| А. Руткевіч | 25 |
| В. Зеляневўскі | 25 |
| Я. Ролсан | 25 |
| З продажу газэтаў | 35 |
| Усяго | 310 |
| | у ам. валюце 208,48 |
| М. Лужынскі | ам.д. 100 |
| С. і О. Нарушэвіч | ам.д. 100 |
| М. Нікан | аўстр.д. 10 |
| М. Скабей | аўстр.д. 10 |
| Усяго | ам.д. 200 |
| | аўстр. д. 20 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| Я. і І. Сурвіла | ам.д. 50 |
| В. і Р. Жук-Грышкевіч | 50 |
| К. Акула | 20 |
| М. і В. Пашкевіч | 20 |
| В. Цялеш | 15 |
| П. і З. Шварцман | 15 |
| Усяго | ам.д. 170 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

| | |
|---|---|
| Клюб «Сакавік» у Брадфордзе | ам.д. 300 |
| М. Віценчык | анг.ф. 5 |

**ШВАЙЦАРЫЯ**

| | |
|---|---|
| Я. П. Лёхэр | ам.д. 15 |

*УСІМ ПРАДСТАЎНІКОМ, АХВЯРАДАЎЦАМ І ПАДПІШЧЫКАМ — ШЧЫРАЯ ПАДЗЯКА!*

**Выдавецтва «Беларус»**

## *НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД*

*Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва былі атрыманыя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Суродзічы з Кліўленду | дал. 400 |
| Др. Л. Трусэвіч | 50 |
| М. Лужынскі (продаж кніжак) | 100 |
| Ю. Попка | 30 |
| А. Даніловіч | 20 |
| Э. Пітушка | 10 |

## НА ДАПАМОГУ СУРОДЗІЧАМ У ПОЛЬШЧЫ

| | |
|---|---|
| Ул. Набагез | 100 |
| Ант. Адамовіч | 100 |
| Ю. Андрусышына | 50 |
| М. Смаршчок | 50 |
| Я. Каханоўская (заміж кветак на магілу с. п. О. Запруднік) | 40 |
| Э. Норык | 30 |
| Я. Запруднік | 30 |

Усім ахвярадаўцам шчыры дзякуй!

**Юля Андрусышыны**
**Ала Рамана**
**Вера Бартуль**

УВАГА!!! УВАГА!!!

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

**B. Danilovich**
**303 Howard St.**
**New Brunswick, NJ 09901**

**Адміністрацыя газ. «Беларус»**

### АБВЕСТКА

Сп. Балеслаў Лішчонак, на свой кошт, выдаў дзьве розныя касэты зь беларускімі песьнямі й танцамі. Цана аднэй касэты — 6.00 дал. амэрыканскіх ці канадыйскіх. Перасылку аплачвае пакупнік. Замаўляць у выдаўца, або вызначанага агента мясцовага згуртаваньня. Зьвяртацца на адрас:

Mr. B. Lisczonak, 472 Byron Court, Oshawa, Ont., LIH 6R9, CANADA.

## СЬВ. † ПАМ. др. ВАСІЛЬ ГЛАЗКОЎ

Вярхоўны Атаман, старшыня Казацкага Амэрыканскага Камітэту Грамадзянаў ЗША, шматгадовы блізкі супрацоўнік беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Заходняй Нямеччыне й ЗША, народжаны 11 лютага 1908 г., памёр у Нью-Ёрку 28 лістапада 1987 г., аб чым з глыбокім жалем паведамляе й шчырае спачуваньне дачцы нябожчыка сп-ні Лідзіі Ганбар і ейнай сям'і выказвае

**Прэзыдыюм Рады БНР**

## СЬВ. † ПАМ. СЫМОН КРЭГАР

Выдатны сын славенскага народу й шчыры прыяцель Беларусаў, заснавальнік і няўтомны працаўнік на становішчы віцэ-старшыні Рады Славянскае Этнічнае Спадчыны ў Амэрыцы, памёр у 74-гадовым веку 19 лістапада сёлета, пра што з глыбокім сумам паведамляе

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**

### КОЛЬКІ ПАЛЯКОЎ У СССР?

Супрацоўнік Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША Пол Гоўбэл (Paul Goble) у інтэрвію польскай газэце «Новы дзеннік» (18.XI.87) сказаў, што Палякоў у Савецкім Саюзе налічваецца «ня больш за мільён васемсот тысячаў». (Паводля некаторых польскіх эміграцыйных колаў, у СССР налічваецца больш за тры мільёны Палякоў). «За Палякоў трэба ўважаць тых, — сказаў Гоўбэл, — хто падае сябе за такога».

Сп. Гоўбэл сказаў пры гэтым адну навіну. «На Ўкраіне й Беларусі, — зазначыў ён, — ёсьць школы, у якіх выкладаецца польская мова, вядуцца радыё- й тэлеперадачы ў польскай мове, але ўсё гэта ў абмежанай колькасьці і пры выразных тэндэнцыях русыфікацыі польскай этнічнай групы».

Дасюль нам ніколі не даводзілася чуць пра навучаньне польскае мовы ў школах БССР або польскія радыё- ці тэлеперадачы. Можа хто-небудзь з нашых чытачоў ведае што-небудзь пра гэта. Будзем радыя пачуць.

Бэльгійская газэта «Ле Суар» (6.XI.87) у артыкуле пра нацыянальнасьці Савецкага Саюзу піша, што Палякоў у СССР мільён дзьвесьце тысячаў.

### ІНСТЫТУТ ЗАМЕЖНЫХ МОВАЎ: БАЙКОТ «ПЕРАБУДОВЫ»

«На сёньняшні дзень Мінскі інстытут замежных моваў ігнаруе ўсялякія праблемы і пытаньні разьвіцьця нацыянальнай культуры. У інстытуце (у якім выклады вядуцца парасейску — рэд. «Б-са») да сёньняшняга дня нават не выкладаецца курс беларускай літаратурнай мовы» («ЛіМ», 6.XI.87).

### З РАСЕЙСКІМІ БУКВАРАМІ ПРАБЛЕМАЎ НЯМА

За «круглым сталом», што адбыўся ў Менску 10 верасьня 1987 г. ў Саюзе Пісьменьнікаў Беларусі, Анатоль Клышка сказаў («ЛіМ», 2.X.87):

«У нас існуе вялікая праблема з выданьнем неабходных беларускіх падручнікаў. На канфэрэнцыі (настаўнікаў) у Баранавічах давялося пачуць ад настаўніцы пачатковых клясаў, што на 16 вучняў прыпадае толькі 7 буквароў. Нават старых беларускіх буквароў няма. Чаму такі непарадак — зразумець цяжка. Дарэчы, з рускімі букварамі ніякіх праблемаў няма».

Чаму гэтак так, зразумець зусім ня цяжка. Абвешчанае партыяй «зьліцьцё нацыяў» можа адбывацца толькі шляхам абмяжоўваньня нацыянальных публікацыяў, шляхам русыфікацыі.

### *ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

Паважаная Рэдакцыя «Беларуса»!

Прачытаўшы ў папярэднім нумары газэты весткі аб Беларусах у далёкай Аргентыне, прыйшла мне думка напісаць пра Беларусаў, якія жывуць непадалёк ад Нью-Ёрку вонках беларускіх нацыянальных арганізацыяў, аднак цікавяцца беларускімі навінамі. Гутарка будзе пра горад Джэксан, які знаходзіцца амаль у сярэдзіне штату Нью-Джэрзы, акружаны вялікімі лясамі й вазёрамі. У гэтым горадзе й вакол яго жыве, як я арыентуюся, каля 1000 Беларусаў з розных мясьцінаў Беларусі. Гэта пераважна пэнсіянеры, шмат хто зь іх прыехаў у Амэрыку яшчэ перад 1-ай Сусьветнай вайной.

Я й дзясяткі іншых навейшых эмігрантаў жывём у доме для старэйшых людзей, пабудаваным талакой, добра ўладжаным. Дом гэты, як і шмат будынкаў ў гэтай ваколіцы, належыць да арганізацыі, якая называецца Фарма РООВА. Арганізацыя, як і фарма — уласнасьць арганізацыі — фармальна арганізацыя расейская. Аднак нікому не сакрэт — аб гэтым пісалася ў друку — што і пачынальнікі і шмат якія кіраўнікі ды сябры арганізацыі і Фармы РООВА былі найбольш нашыя землякі-Беларусы, «старыя» эмігранты зь Віленшчыны, Меншчыны, Горадзеншчыны. Прыкладам, першым кіраўніком фармы быў Беларус са Случчыны А. Клебановіч (яму цяпер 95 гадоў і жыве ён тут каля фармы), на чале фармы цяпер стаіць Беларус з Гомельшчыны С. Кулеш. Настаяцель царквы на магільніку — таксама Беларус зь Беласточчыны.

Кіраўніцтва фармы арганізоўвае для жыхароў культурныя праграмы. Калісьці прыяжджаў сюды і наш беларускі хор «Каліна» з гораду Саўт-Рывэру. Спадзяёмся, што некалі завітае да нас і танцавальны ансамбль «Васілёк» зь Нью-Ёрку. Бываюць у нас госьці зь Беласточчыны. Наагулжа ўлетку жыцьцё тут ідзе жвава, прыяжджае шмат землякоў, моладзі.

Узімку тут ціха й прыгожа.

На Фарме РООВА ёсьць людзі, якія маглі-б даць шмат цікавага матар'ялу газэце «Беларус».

**А. Асіповіч**

### «МЯДЗЬВЕДЗЬ У АВЕЧАЙ СКУРЫ»

Пра «медзьвядзя ў авечай скуры» напісала канадзкая газэта The Toronto Sun, у нумары за 8.XI.87, нагадаўшы сваім чытачом з нагоды ўгодкаў Кастрычніцкае рэвалюцыі, што сярод нацыяў, якіх прагнынула маскоўская імпэрыя, была таксама й Беларусь.

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ

*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона й Юрка*
*Акула Надзея, Кастусь, Юрка й Альгерд*
*Андрусышын Юля, Павал, Юрка й Данчык*
*Балкоўскія Зофія, Аляксей і Янка*
*Балкоўскія Лорэнс, Янка й Аляксандар*





*Бартуль Вера, Франьціш і Антон*
*Бяленіс Людвіка й Антон*
*Войтэнка Марыя*
*Грабінскі Балеслаў*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й Сяргей*
*Даніловіч Аляксандра, Браніслаў і Эдзік*
*Дубяга Зофія, Жэня, Алег, Юльян і Тамаш*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Жук-Грышкевіч Раіса й Вінцэнт*
*Заморскія Вера, Мікалай, Таня й Ніна*

*Запруднік Янка й Вера*
*Кажан Люба й Віталь, Маргарыта й Юля зь сем'ямі*
*Кажура Марыя й Пётра*
*Кажура Элен і Альгерд*
*Калоша Кастусь*
*Каляда Клаўдзія й Юрка*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Кахаиоўская Іна*
*Каханоўская Яніна*
*Качан Оля, Юрка, Еанна й Міхась*
*Кіпель Марыя*



*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Юрка*
*Кляйнбах Элеанора, Эмілія й Джаш*
*Кулеш Ніна й Павал*
*Кушаль Натальля*
*Кэн Рагнеда, Варэла й Язэп*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Еўфрасіньня й Янка*
*Лужынскія Надзея, Міхась, Гэлена й Нэля*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Мерляк Ганна, Кастусь і Вінцусь*
*Місюль Янка*
*Міхалюк Лёля й Янка*
*Найдзюк Юзэфа й Часлаў зь сям'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Нікан Лена й Мікола*



*Норык Кінуся, Лёня й дзеці*
*Орса Пётра зь сям'ёй*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Плескач Таня й Васіль*
*Рамук Вера й Вітаўт зь дзецьмі*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей і Мікалай*
*Сільвановіч Міхась, Ніна, Аляксандар і Андрэй*
*Скабей Мікалай*



*Стагановіч Аляксандар і сям'я*
*Станкевіч Зінаіда й Раіса*
*Прат а. Страпко Міхась з матушкай*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Супрун Анна й Тамаш*
*Сьліўка Ўладзімер (Валодзя)*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Ханенка Ліда й Янка*
*Харавец Галя, Уладзімер (Валодзя)*
*Шукелайць Антон*
*Шуст Галена й Мікола*
*Чарнэцкая Аляксандра*





**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ УСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**





**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
*вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ 1988 ГОДАМ!**



**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**
*Шчыра вітае ўсіх сваіх вернікаў, усіх суродзічаў-Беларусаў і прыяцеляў БАПЦ з Раством Хрыстовым і Новым 1988 годам. Няхай Усемагутны ахоўвае ўсіх нас Свёй апекай і дазваляе нам спакойна маліцца ў нашых сьвятынях. Будзем-жа прасіць і надзеяцца на Ягоную ласку.*
*Ветліва просім пасылаць калядныя ахвяры на Кансысторыю БАПЦ.*

*BAOC (Attn. Mr. A. Silwanovich), 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904*



*За Вашую дапамогу будзем Вам шчыра ўдзячныя.*
*Няхай ласка Божая будзе з Вамі.*
*З даручэньня Першагіерарха БАПЦ*
*Архіепіскапа Мікалая*
**Мітр. Прат. а. Карп Стар**

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ**



*жадае сваім сябром і прыхльнікам*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ і ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**



**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ**
*вітае сваіх сябровак і сяброў ды ўсё беларуска-амэрыканскае грамадзтва з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ 1988 ГОДАМ!**
*Чакайце на нашых калядоўшчыкаў!*



**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ ДЫ ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!**

